# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 13 (2207) 28 сакавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.









Працягваецца конкурс на лепшы праект помніка беларускаму першадрукару і асветніку Францыску Скарыне, які будзе ўзведзены ў Мінску.

Саіскальнікам прапанавана на выбар два месцы размяшчэння манумента: плошча перад Акадэміяй навук БССР і Верхні горад. Пятнаццаць праектаў прадстаўлена ў мінскім Палацы мастацтва творчымі калектывамі рэспублікі для ўсенароднага абмеркавання. Лепшы праект з улікам грамадскай думкі адбярэ кампетэнтнае журы.

НА ЗДЫМКАХ: праекты помнікаў Ф. Скарыне, аўтары У. ХМЫЗНІКАЎ (фрагмент), С. і Л. ГУМІЛЕЎСКАЯ, А. ДРАНЕЦ і А. КАМЛЮК.


● **СССР ВЫКОНВАЕ МІЖНАРОДНА-ПРАВАВЫЯ НОРМЫ**

(«Права выбіраць грамадзянства») Стар. 2

● **ДРУЖАЦЬ САЛДАТЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ**

(«Лісты ад англійскага ветэрана») Стар. 3

● **ПАЎЛУ ДУБАШЫНСКАМУ — 60 ГАДОЎ**

(«Вернасць сцэне») Стар. 7


*ХТО СПАЛІЎ ХАТЫНЬ?*

# У СЯМ'І НЕ БЕЗ ВЫРАДКА

**З абвінавачага заключэння: 22 сакавіка 1943 года Васюра, Смоўскі разам з маёрам Кернерам і іншымі афіцэрамі, [illegible]ейнічаючы на чале 118-га пал[illegible]кага батальёна, разам з іншымі карнымі фарміраваннямі з мэтай праследавання партызан уварваліся ў Хатынь, дзе абвінавачаны Р. Васюра прыняў удзел у арганізацыі і ажыццяўленні жорсткай расправы над жыхарамі вёскі, у час якой 149 жыхароў, у тым ліку 43 жанчыны і 79 дзяцей, былі сагнаны ў адрыну, расстраляны і спалены ў ёй, вёска поўнасцю знішчана, а маёмасць разрабавана. Васюра асабіста страляў па адрыне.**

Тое, аб чым вы прачыталі, чыстая праўда, якая толькі цяпер выходзіць на свет. Выходзіць нехаця, праз цяжкасці дагматычнага мыслення, якое дагэтуль абцяжарвае наш розум, праз крах ілюзій і горкае пачуццё працверажэння. Дагэтуль мы ведалі, што ў трагедыі Хатыні вінаваты батальён фашыстаў пад камандаваннем Дырлевангера. Так нам гаварылі, так пра гэта «сведчыла» гісторыя. І раптам побач з нямецкім прозвішчам Дырлевангер устае ўкраінскае Васюра! Дагэтуль мы ведалі, што палілі нашы хаты, расстрэльвалі нашых людзей літоўскія і латышскія карныя атрады, а што датычыцца нашых братоў-украінцаў, то мы з імі толькі змагаліся разам супраць акупантаў у партызанскіх фарміраваннях.

Мы так і засталіся братамі, і ніякія выпрабаванні не пахіснуць нашай дружбы. Але ў гады плакатнага братэрства і прыглянцаванай дружбы народаў нам уводзілі ў вушы і розум: паміж братамі і сябрамі пры сацыялізме не павінна быць ніякай звады, усё мае выглядаць міла і светла, як у Эдэме сярод анёлаў. Ды жыццё тчэцца не з адных ружовых барваў, а ў сям'і, як кажуць, не без вырадка. Былі такія вырадкі і сярод беларусаў, і сярод украінцаў. Яны, хто з ахвоты, хто з прымусу і пакоры, дапамагалі акупантам нішчыць і руйнаваць нашы вёскі, паліць жывымі і вешаць сваіх жа суайчыннікаў.

Што было, пра тое і трэба гаварыць. Гісторыя, цвердзім мы цяпер, павінна быць без «белых плям». І гісторыя Хатыні таксама! Першую спробу сказаць праўду [illegible] трагедыю Хатыні зрабіў ка[illegible]спандэнт маскоўскай газеты «Рабочая трибуна» Васіль РОШЧЫН. У снежні мінулага года з'явіўся яго вялікі артыкул, на які амаль што ніхто не звярнуў увагі. Відаць, з-за няёмкага пачуцця: а як жа тады дружба народаў?



Вось пра што сведчыць журналіст «Рабочей трибуны».

...12 снежня 1986 года ў Мінску ў будынку акруговага ваеннага трыбунала пачаўся закрыты судовы працэс над здраднікам Радзімы Рыгорам Васюрам, былым начальнікам штаба 118-га паліцэйскага батальёна, спецыяльна сфарміраванага акупантамі для знішчэння партызан і мірных жыхароў. З вялікай цяжкасцю, праз перагаворы з Масквы па «ВЧ» з беларускімі ідэолагамі, мне, у той час уласнаму карэспандэнту «Социалистической индустрии», удалося дабіцца дазволу наведваць судовыя пасяджэнні. Былы загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ С. Паўлаў у інструктажнай гутарцы папярэдзіў: **Хатынь з матэрыяла выключыць.** Каб чытач з газетнага рэпартажу, барані Божа, не зразумеў, што абвінавачаны мае дачыненне да спалення Хатыні.

Гэта была ўмова, якую ў той час нельга было не прыняць. Артыкул давялося выпусташыць, завізіраваць у старшынствуючага на судзе падпалкоўніка юстыцыі В. Глазкова. Але ў свет ён не выйшаў: не змог прайсці загарджальныя кардоны ў Маскве. З таго часу папка з запісамі, зробленымі на судовым працэсе (ён працягваўся некалькі тыдняў), нібы апякала мяне ўсякі раз, які толькі да яе дакранаўся.

Прынята лічыць (а яно так і ёсць), што стаўка Гітлера на распальванне міжнацыянальнай бойні ў Савецкім Саюзе ў час вайны не апраўдалася. Тым не менш у асобных яе эпізодах разлікі акупантаў на выкарыстанне ў сваіх мэтах і нацыяналістычных настрояў у рэспубліках аказаліся дастаткова эфектыўнымі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

РЭФЕРЭНДУМ

## ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ ГАЛАСАВАННЯ

20 сакавіка гэтага года адбылося пасяджэнне Цэнтральнай камісіі Беларускай ССР рэферэндуму СССР. Былі разгледжаны пратаколы акружных камісій рэферэндуму СССР аб выніках галасавання 17 сакавіка 1991 года. На пасяджэнні адзначана, што галасаванне ў рэспубліцы праводзілася ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона СССР «Аб усенародным галасаванні (рэферэндуме) СССР». Галасаванне адбылося на ўсіх 6 836 участках. У рэферэндуме на тэрыторыі Беларускай ССР прыняло ўдзел 6 126 983, ці 83,3 працэнта грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у галасаванні. За захаванне Саюза ССР выказалася 82,7 працэнта прыняўшых удзел у галасаванні, 16,1 працэнта адказала «не», 1,2 працэнта бюлетэняў прызнана несапраўднымі.

Вынікі галасавання па Беларускай ССР сведчаць, што большасць грамадзян, якія ўдзельнічалі ў рэферэндуме, выказалася за захаванне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік як абноўленай федэрацыі раўнапраўных суверэнных рэспублік.

ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ

## ЗАРЭГІСТРАВАНА ПЕРШАЯ ПАРТЫЯ

Пасведчанне аб рэгістрацыі атрымала Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі. Гэта першая партыя ў рэспубліцы, якая атрымала юрыдычнае права на дзейнасць. Яна аб'яднала ліберальна-дэмакратычную і радыкальна-дэмакратычную партыі, «Дэмакратычную платформу», Дэмакратычныя партыі Мінска і Брэста.

Рэгіянальныя адздзяленні і пярвічныя арганізацыі АДПБ дзейнічаюць ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі, у Бабруйску, Радашковічах, Чашніках, Оршы, Лідзе, Дзяржынску, іншых раённых цэнтрах і нават у вёсках.

Членамі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі з'яўляюцца многія дэпутаты розных узроўняў, у тым ліку два — Аляксандр Спіглазаў і Валерый Зяленін — дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі.

НА СУСВЕТНЫ ЎЗРОВЕНЬ

## СПАДАРОЖНІКАВАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

Навукова-вытворчае аб'яднанне «Га нт» кожны год выпускае новую мадэль тэлевізара. Праўда, убачыць іх на прылаўках магазінаў пакуль што не ўдаецца, але гэта іншая тэма. Сёлета тут рыхтуецца да вытворчасці зусім новы апарат. Гаворка ідзе аб сістэме прыёму спадарожнікавага тэлебачання. У мінулым годзе сістэма была распрацавана, сабрана, і сёння ўжо распрацоўваюцца першыя 50 прамысловых сістэм, здольных прымаць сігналы спадарожнікаў і пераўтвараць іх у высакаякасныя адлюстраванні. У гэтай рабоце ўлічваўся вопыт многіх замежных фірм, у вытворчасці прымяняюцца мікрасхемы сусветна вядомага «Філіпса». Спецыялісты лічаць, што тэхналагічных цяжкасцей пры запуску сістэмы і ў працэсе вытворчасці няма і ў недалёкай будучыні ў Мінску можна будзе глядзець 40—45 праграм.

КОНКУРС ПРЫГАЖОСЦІ



У Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета прайшоў гарадскі конкурс прыгажосці «Папялушка-91». Яго арганізатары—шматпрофільны камерцыйны цэнтр «Арфей» і сумеснае канадска-савецкае прадпрыемства «Ньюбрыдж Сістэм». Пераможцай конкурсу стала студэнтка Мінскага інстытута замежных моў Алена СМАРАДЗІНСКАЯ (на здымку). Крыштальны туфлік і паездка па Канадзе — такая ўзнагарода Папялушцы.

НЯДБАЙНАСЦЬ

## ЛЕДЗЬ НЕ ПРАСПАЛІ

Яшчэ не ачомаліся ад лістападаўскага «падарунка» ўсе, хто жыве ўздоўж па Заходняй Дзвіне ад Полацка да Рыгі, а на наваполацкім «Паліміры» — новае здарэнне. Тады па нядбайнасці ў раку трапіла каля 2 тысяч кубічных метраў сцёкавых вод, атручаных ацэтонцыянгідрыдам. Цяпер такога не здарылася, але радасці ад гэтага мала. На тым жа « міры» ішла загрузка цыстэрны нітраакрылавай кіслатой. Апаратчык таварна-сыравіннай базы «Паліміра» заснуў у час работы, у выніку чаго пэўная колькасць кіслаты пералілася. На шчасце, кіслату, якая разлілася, удалося аператыўна адпампаваць і нейтралізаваць.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

◆ Нягледзячы на розныя камісіі, кантроль, прафілактыку, растуць крадзяжы на прамысловых прадпрыемствах. У прадзільна-трыкатажным аб'яднанні імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка ў Пінску агульны кошт употай вынесенага за прахадную апошнім часам павялічыўся амаль што ў 30 разоў.

◆ Па рашэнню Сенненскага раённага Савета Віцебскай вобласці, кожнаму, хто здасць 400 грамаў крыві (разавая доза) у мясцовую бальніцу, выдаецца талон, паводле якога можна набыць пару чаравікаў — у якасці заахвочвання. Ахвочых аказалася многа, бо абутак патрэбен кожнаму, а яго няма.

◆ Беларуская мова пакрысе ўваходзіць у адміністрацыйныя кабінеты. На нядаўняй сесіі Гродзенскага гарсавета па-беларуску гаварыў старшынствуючы на ёй В. Кудравец, даклад старшыні гарсавета С. Домаша таксама быў зроблены на беларускай мове. У гарвыканкоме арганізаваны заняткі па беларускай мове для ўсіх яго работнікаў.

АДМЕНЕНЫ АНТЫКАНСТЫТУЦЫЙНЫ УКАЗ

# ПРАВА ВЫБІРАЦЬ ГРАМАДЗЯНСТВА

**Камітэт Канстытуцыйнага нагляду СССР прызнаў не адпавядаючым Канстытуцыі, законам СССР і міжнародна-прававым нормам Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб выхадзе з грамадзянства асоб, якія перасяляюцца з СССР у Ізраіль». Аб тым, чым выклікана такое рашэнне, разважае ў гутарцы з карэспандэнтам Інфармацыйнага агенцтва навін вядомы юрыст прафесар Ігар БЛІШЧАНКА.**

— Згодна з ранейшым становішчам, асоба, якая выязджае ў Ізраіль, аўтаматычна пазбаўлялася савецкага грамадзянства. Гэта значыць, што такое палажэнне з самага пачатку насіла незаконны, антыканстытуцыйны характар. На жаль, яно даволі доўга прымянялася на практыцы, што стварала юрыдычна складаную сітуацыю для чалавека, які перасяляецца ў Ізраіль і не жадае адмовіцца ад савецкага грамадзянства. Былі выпадкі, калі людзей пазбаўлялі савецкіх узнагарод, што з'яўлялася салютным самавольствам і не мела нічога агуль га з законамі СССР. Больш таго, іх пазбаўлялі пенсіі, што таксама незаконна.

Акрамя таго, ранейшы Указ не адпавядаў міжнародна - прававым нормам, савецкім абавязацельствам па міжнароднаму праву, у прыватнасці, пактам аб правах і свабодах чалавека, дзе прадугледжваецца прынцып свабоды перамяшчэння, свабоды выезду без якой бы там ні было дыскрымінацыі. А на справе атрымлівалася так, што ў адпаведнасці з гэтым палажэннем пазбаўляліся грамадзянства асобы, якія выязджалі на пастаяннае месца жыхарства толькі ў Ізраіль, а не ў якую-небудзь іншую краіну.

Праўда, адна з прычын, якая вылучалася ў якасці такой меры, заключалася ў тым, што дзяржава Ізраіль прадастаўляла сваё грамадзянства яўрэям. як толькі яны ступалі на яго тэрыторыю. Чалавек, які проста прыязджаў у госці ці працаваць у краіне, механічна аб'яўляўся грамадзянінам данай дзяржавы, хаця ён можа быць гэтага і не жадаў. Такая сітуацыя прывяла да таго, што ў яўрэяў аказаліся двайныя абавязацельствы. Сітуацыя з двайным грамадзянствам, на мой погляд, непрымальная як для самога чалавека, так і для дзяржавы. У гэтым выпадку абодва нясуць двайны абавязак у адносінах адзін да аднаго. Дзе б чалавек ні знаходзіўся, ён абавязаны захоўваць лаяльнасць адносінах да данай дзяржавы, а калі ён з двайным грамадзянствам, то яго лаяльнасць раздвойваецца, што ставіць яго ў двухсэнсавае становішча.

Таму мы стараемся пазбягаць такой сітуацыі, і СССР на сваёй тэрыторыі не прызнае грамадзянства другой дзяржавы за сваімі грамадзянамі. Пагадненні аб выбары грамадзянства ў нас маюцца толькі з шэрагам суседніх дзяржаў, але магчымасць заключэння новых пагадненняў не выключаецца, у тым ліку і з Ізраілем.

**— У якім плане павінна перагледацца ранейшае палажэнне!**

— Размова ідзе не аб распрацоўцы спецыяльнай працэдуры, а аб тым, што, у прыватнасці, Аддзел віз і рэгістрацыі (АВІР), куды будзе звяртацца асоба, якая збіраецца перасяліцца ў Ізраіль, з гэтага дня пакідае вырашэнне пытання аб грамадзянстве за данай асобай. Такім чынам, прыняўшы рашэнне аб незаконнасці пазбаўлення савецкіх яўрэяў грамадзянства, Камітэт Канстытуцыйнага нагляду зрабіў гэта юрыдычна абгрунтавана.

**— З прыняццем такога рашэння ці не ўзмоцніцца заклапочанасць арабскіх дзяржаў ростам эміграцыі з СССР у Ізраіль і тым больш з улікам магчымых вынікаў новага савецкага закона аб уездзе і выездзе, які павінен быць прыняты!**

— Лічу, што гэта не з'яўляецца прычынай для занепакоенасці арабскіх дзяржаў. Хаця з прыняццем новага закона аб парадку выезду з СССР і ўезду ў СССР можна чакаць павелічэння патоку эмігрантаў у розныя краіны. Ніхто не павінен абмяжоўваць права вольнага выезду, але ствараць пераважную сітуацыю для выезду менавіта ў Ізраіль, вядома, няправільна. Неабходна даць магчымасць тым жа савецкім яўрэям выязджаць у любую краіну ці вяртацца ў СССР.

На мой погляд, большую заклапочанасць у гэтым пытанні выклікае рассяленне савецкіх грамадзян на акупіраваных тэрыторыях насуперак розным запэўненням ізраільскіх улад. Тэль-Авіў спрабуе тлумачыць гэта добраахвотным волевыяўленнем людзей, але гэтая добраахвотнасць павінна быць узгоднена з уласнікамі гэтай зямлі — арабскім народам Палесціны. Гэтае пытанне можна вырашыць толькі шляхам перагавораў паміж Савецкім Саюзам, Ізраілем і АВП.

**Гутарку вёў Андрэй ЧАРНЯЦОЎ.**

З'ЕЗД БНФ






23—24 сакавіка ў Мінску прайшоў II з'езд Беларускага народнага фронта (БНФ). На ім прысутнічалі 450 чалавек, дэлегатаў і гасцей як з Беларусі, так і з суседніх рэспублік, з Польшчы, ЗША. З прывітальным словам да грамады звярнуўся народны дэпутат СССР Васіль Быкаў. А з палітычным дакладам выступіў лідэр БНФ Зянон Пазняк. У ім ён адзначыў і абгрунтаваў неабходнасць карэкцыі праграмы БНФ «Адраджэнне», удакладніў мэты, задачы руху, шляхі іхняга дасягнення. У праграмнай Заяве БНФ сказана, што фронт гуртуе людзей незалежна ад іхняга сацыяльнага стану, прафесійнай, нацыянальнай, партыйнай і рэлігійнай прыналежнасці. А таксама абірае дэмакратычныя, негвалтоўныя, гуманныя метады палітычнае дзейнасці. Крайняю мерай палітычнай барацьбы фронт лічыць грамадзянскае непадпарадкаванне. Істотны кірунак працы БНФ у новых грамадска-палітычных і нацыянальна -культурных варунках — культурна-асветная справа.

НА ЗДЫМКАХ: у час з'езда.

БАЛЮЧАЯ ТЭМА

# ІНФЛЯЦЫЯ ЭПОХІ ПЕРАБУДОВЫ

Інфляцыя ў нашай краіне заўсёды мела мала агульнага з вядомымі на Захадзе яе класічнымі формамі. Калі «нармальна» яна праяўляецца ў росце цэн і даганяючых іх нават абганяючых іх зарплатах і прыбытках, то ў СССР асноўнай формай інфляцыі было паступовае звужэнне асартыменту тавараў да дыяпазону больш дарагіх і прыбытковых. Цэны не павышаліся, проста танных і якасных тавараў станавілася ўсё менш і менш.

Катастрафічны характар гэты працэс набыў з пачаткам перабудовы. За апошнія паўтара-два гады са свабоднага продажу зніклі ўсе тавары ўвогуле. Нават паводле афіцыйных даных, ад 95 да 98 працэнтаў назваў таварных груп цяпер з'яўляюцца дэфіцытнымі. Утварыўся вялікі незадаволены попыт у памеры не менш як 250 мільярдаў рублёў, для ліквідацыі якога трэба роўна ў 1,5 раза павялічыць гадавы тавараабарот.

Наяўнасць такога попыту разбурае рынак і эканоміку. У ажыятажнай гарачцы скупляецца літаральна ўсё. Адны купляюць у запас у чаканні далейшага росту цэн, другія — з мэтай перапродажу, трэція — каб проста ў нешта ўкласці грошы, якія абясцэньваюцца. Іншы раз плацежаздольны попыт на які-небудзь канкрэтны тавар перавышае ў 2 — 3 разы ўсякія разумныя межы. І ўсё-такі грошы аказваюцца «лішнімі». За іх немагчыма што-небудзь купіць увогуле, таму што магазіны пустыя абсалютна.

І вось калі ўлічыць не толькі адкрыты і скрыты рост цэн, але і павелічэнне незадаволенага попыту, то тэмп інфляцыі ў СССР са штогадовых 1,5 — 3 працэнтаў у перыяд 1960 — 1985 гадоў падняўся ў 1986 годзе да 6,2 працэнта, у 1987 — да 7,3, у 1988 — да 8,4, у 1989 — да 11 і ў 1990 — да 20 — 21 працэнта. Інфляцыя з паўзучай ператварылася ў бягучую.

Чыста знешняй прычынай імклівага абясцэнення грошай з'явілася іх нястрымная эмісія. Да пачатку 1988 года, гэта значыць прыкладна да таго часу, калі міністрам фінансаў СССР стаў В. Паўлаў (цяперашні прэм'ер), уся наяўная грашовая маса склала прыкладна 100 мільярдаў рублёў. Калі да гэтага яна павялічвалася кожны год на 3 — 4 мільярды рублёў, то ў 1988 годзе дадатковая эмісія склала ўжо 11,5 мільярда рублёў, у 1989 годзе — 18, а ў 1990 год даў рэкорд эмісіі папяровых грошай—28 мільярдаў рублёў. Іншымі словамі, за тры гады папярова-грашовая маса ўзрасла амаль у 1,6 раза. У тым жа 1990 годзе валавы нацыянальны прадукт скараціўся мінімум на 3 працэнты. Такога спалучэння двух процілеглых фактараў не вынесла б любая эканоміка. Не вытрымала яго і савецкая. Рынак як спажывецкіх тавараў, так і сродкаў вытворчасці аказаўся поўнасцю разбураным. Гэта ў сваю чаргу рэзка абвастрыла ўсю сацыяльна-палітычную абстаноўку ў краіне і істотна пагоршыла ўмовы функцыяніравання прадпрыемстваў і вытворчасцей. Аказалася, што для падтрымання нармальнай вытворчасці мала мець грошы. Трэба яшчэ знайсці сыравіну, матэрыялы, энерганосьбіты і г. д., што ўдаецца зрабіць далёка не заўсёды. Бо ва ўмовах інфляцыі, тым больш узрастаючай, усе імкнуцца як мага хутчэй пазбавіцца ад грошай і прытрымаць тавары, якія даражэюць.

Было б несправядліва думаць, што ўрад, кідаючы ўсё новыя і новыя дзесяткі мільярдаў рублёў у сферу абарачэння, свядома ішоў па шляху разбурэння эканомікі. Вядома, ён не хацеў гэтага. У свой час (1987 — 1988 гады) былі створаны і аб'яўлены праграмы скарачэння дзяржаўных датацый стратным прадпрыемствам, скарачэння колькасці будоўляў, якія бясконца доўга цягнуцца, павелічэння продажу насельніцтву будаўнічых матэрыялаў, запасаў сыравіны, паліва, матэрыялаў і нават некаторых відаў абсталявання. Ствараліся планы расшырэння імпарту найбольш даходных тавараў і да т. п. Асабліва важнымі прадстаўляліся праграмы структурнай перабудовы вытворчасці, у першую чаргу канверсіі прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу на выпуск спажывецкіх тавараў.

Але ўсе гэтыя планы і праграмы аказаліся, на жаль, толькі добрымі намерамі. Дзесяткі, сотні мільярдаў рублёў па-ранейшаму кідаюць, як у бездань, у падтрымку прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў, якія больш спажываюць, чым выпускаюць. Вялікія сродкі расходуюцца на ўзвядзенне аб'ектаў, што могуць даць аддачу толькі праз многа гадоў.

Цяпер робіцца спробы спыніць працэс развалу эканомікі шляхам павышэння цэн на тавары ўсіх відаў і павелічэння падаткаў з прыбыткаў і даходаў работнікаў. Думаецца, што гэта не прывядзе да поспеху. Рост цэн і падаткаў толькі паскорыць інфляцыю.

Для таго каб «звязаць» хаця б частку «гарачых» грошай з агульнага незадаволенага попыту ў 250 мільярдаў рублёў, былі павышаны працэнты выплат па тэрміновых укладах насельніцтва. Але гэта таксама не можа прывесці да прыкметнага поспеху. Бо пры інфляцыі, якая перавышае 20 працэнтаў, усе разумеюць, што лепш купіць любы тавар цяпер, чым потым губляць назапашанае.

Пэўныя надзеі ўскладаюцца на прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці. Ужо ў гэтым годзе мяркуецца прадаць насельніцтву акцый былых дзяржаўных прадпрыемстваў на 40 мільярдаў рублёў. Аднак, калі рубель хутка абясцэньваецца, толькі вельмі высокія дывідэнды, што пакрываюць тэмп інфляцыі, здольны зрабіць больш прывабнай пакупку акцый. Рэальна дывідэнды неабходна забяспечыць на ўзроўні не менш 50 працэнтаў гадавых. Між тым урад увёў абмежаванне на памер прыбытку. Калі ён перавышае 30 працэнтаў, то ў пераважнай большасці выпадкаў забіраецца ў даход дзяржавы амаль поўнасцю. У гэтых умовах фактычныя дывідэнды не могуць быць больш 13 — 15 працэнтаў. Але такі даход не спакусіць тых, хто мог бы купіць акцыі.

Гэтыя, а таксама многія іншыя супярэчлівыя і малаэфектыўныя мерапрыемствы не спыняць інфляцыю. Яе можна спыніць толькі адным — скарачэннем расходаў дзяржавы. Але вось гэта пакуль і не адбываецца.

**Анатолій ДЗЯРАБІН,**
**доктар эканамічных навук.**

ЯК ВЫКОНВАЮЦЦА ПРАГРАМЫ

# «АДЗЕЖА» ДЛЯ ТРУБЫ

Больш за 60 мільярдаў рублёў—такія страты штогод прычыняе карозія металаў у СССР. У Беларусі не пажадалі бясконца мірыцца з гэтым і яшчэ гадоў дзесяць назад прынялі дзве рэспубліканскія навукова-тэхнічныя праграмы, накіраваныя на вырашэнне праблемы. Днямі гэта стала бліжэйшай: пачаў дзейнічаць цэх па металізацыі сталёвых труб антыкаразійнымі матэрыяламі, які не мае аналагаў.

— Гэтаму папярэднічалі распрацоўка адпаведных тэхналогій, матэрыялаў і абсталявання,—тлумачыць каардынатар даследаванняў па антыкаразійнай тэматыцы, загадчык лабараторыі Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР Ж. Мрочак.—Аб іх арыгінальнасці гаворыць 23 аўтарскія пасведчанні на вынаходніцтва. Сёння ўсё гэта ўжо даведзена да ўзроўню прамысловага выкарыстання.

Сталёвыя трубаправоды не выпадкова з'явіліся першачарговай мэтай вучоных. І па ўдзельнай вазе, і па гаспадарчаму значэнню яны не маюць сабе роўных. У той жа час пад дзеяннем блукаючых токаў, што ідуць ад ліній электраперадач, засоленасці і павышанай кіслотнасці глебы, тэрмін службы іх скарачаецца, часам да некалькіх гадоў. Рамонт жа абыходзіцца вельмі дорага.

Што ж канкрэтна прапанавалі вучоныя?

— Трубу можна зрабіць як бы двухслойную, —гаворыць загадчык аддзела інжынернага цэнтра ахоўных пакрыццяў Рэспубліканскага навукова-вытворчага аб'яднання па парашковай металургіі Г. Валошын.—Унутраная частка, на якую прыпадае механічная нагрузка, гэта звычайная труба з чорнай сталі. Другі слой —ахоўны, наносіцца з каразійнастойкіх металаў метадам электрадугавога напылення.

Ідэя сама па сабе не новая, але на шляху да яе прамысловага выкарыстання прыйшлося пераадолець нямала цяжкасцей. Напрыклад, перш ахоўнае алюмініевае пакрыццё даводзілася прапітваць смоламі, што шкодна з пункту гледжання экалогіі і выбуханебяспечна. Запатрабавалася—упершыню ў свеце—распрацаваць двухкампанентны нікель-алюмініевы матэрыял для нанясення пакрыцця і наладзіць яго вытворчасць, каб пазбегнуць гэтых недахопаў. І так—на кожным кроку.

Ведаючы ўсё гэта, па-іншаму ацэньваеш з'яўленне новага прасторнага цэха нанясення ахоўных пакрыццяў у вытворчым аб'яднанні «Мінскрэмбуд». Тут ужо дзейнічаюць дзве паточныя лініі для апрацоўкі труб малога і сярэдняга дыяметраў, неўзабаве ўступіць у строй і абсталяванне для ахоўнага пакрыцця труб дыяметрам да 800 міліметраў.

Трапляе труба ў цэх рыжая ад іржы, а выходзіць з процілеглых варот нібыта пакрытая высакародным серабром. Мяркуецца, што яна будзе паспяхова праціставаць карозіі не менш 25—30 гадоў, а пры спрыяльных умовах—і намнога больш. Такім жа чынам можна зрабіць «адзежу» і для разнастайных металічных будаўнічых канструкцый. Падлічана, што новы цэх акупіцца ўсяго за 3—4 гады. Наладжана вытворчасць адпаведнага абсталявання, што дазволіць стварыць падобныя цэхі і ў іншых гарадах Беларусі.

Нядаўна група вучоных і работнікаў вытворчасці—аўтараў апісанай распрацоўкі—удастоена прэміі Савета Міністраў БССР.

**Уладзімір БІБІКАЎ.**

*ВЫПАДКОВАЕ ЗНАЁМСТВА*

# ЛІСТЫ АД АНГЛІЙСКАГА ВЕТЭРАНА

Пазнаёміліся мы з ім у нас у Мінску. Гэта было ўлетку мінулага года. З франтавымі сябрамі я прыйшоў на плошчу Перамогі, каб ускласці кветкі да помніка воінам Савецкай Арміі, партызанам і падпольшчыкам. У дзень 46-й гадавіны вызвалення Беларусі гэта было.

Раптам чую над вухам ціхі голас з прыкметным акцэнтам:

— Ці можна вас папрасіць, каб сфатаграфаваць разам з таварышамі? Вось зараз, калі вы кветкі ўскладаеце...

Так мы, група ветэранаў—удзельнікаў бітвы за родную Беларусь, пазнаёміліся з Робертам Чэлдрам. Ён аказаўся таксама ветэранам другой сусветнай вайны, адным з тых самых «саюзнікаў», якія павінны былі — мы так чакалі! — як мага хутчэй адкрыць «другі фронт».

Разгаварыліся. Пачулі ад англічаніна шмат — і пра час ваенны, і сённяшні. Побач з'явілася невысокая і немаладая ўжо жанчына з лагодным тварам. Гэта была жонка Роберта — Маргарэт. Яна прыехала з ім да нас у краіну па турысцкай пуцёўцы. Пабывалі ўжо ў Маскве і Ленінградзе, Ноўгарадзе і Смаленску...

— А цяпер вось у вас па Беларусі каторы дзень ездзім, — напераббой гаварылі Чэлдры. — У Мінску ў музеі Айчыннай вайны былі, з мастацтвам у другім азнаёміліся... А галоўнае—людзі, людзі у вас добрыя, павагай да нас, гасцей сваіх, вызначаюцца...

І зноў да нас — просьба. Цяпер ужо ў Маргарэт: калі мы не супраць, яна хацела б, каб Роберт зазняў яе разам з намі, тым бо[illegible] што сярод нас была наш[illegible]днапалчанка Ганна Гарэлік. І вось яны, дзве жанчыны, — побач: беларуска і англічанка. Хіба не добрая будзе картка на памяць?

Але хто з нас, асабліва наша Ганна, быў упэўнены, што гэта сваё «ўвасабленне» калі-небудзь мы пабачым, патрымаем у руках?! І хоць нашы новыя знаёмыя абяцалі даслаць фотаздымкі кожнаму!—міжвольна думалася: ат, паедзе сабе дамоў, дык і забудзе пра сваё абяцанне.

— Не, не, не турбуйцеся, — сказала Маргарэт, — абавязкова вышлем. Толькі вось адрасы свае дайце, калі ласка.

Адрасамі з Робертам, былым дэсантнікам саюзных войск, абмяняўся наш аднапалчанін А. Чарноў — былы камандзір сапёрнага ўзвода, маёр у адстаўцы. Прайшоў невялікі час, і вось ён звоніць аднойчы па тэлефоне:

— Атрымаў, — кажа, — цэлы пакет з Англіі. У ім пісьмо аж на чатырох старонках ды пачка фатаграфій.

— А напісана, канешне, па-англійску?

— Так, ды ў мяне ёсць знаёмы перакладчык, дапаможа, і будзем чытаць...

У хуткім часе, знаёмімся з тэкстам пісьма, разглядаем «свае» здымкі. Што ж, бадай, нядрэнна выйшлі!

«Мы былі вельмі ўсхваляваны паездкай, — піша Роберт. — Рад сустрэчы і знаёмству з вамі, дарагія беларусы...»

У адказ мы падзякавалі яму і Маргарэт за ліст і за фота. Напісалі таксама, што і нам прыемна знаёмства з імі, тым больш, што ёсць, як бачыце, што ўспомніць: ваявалі ж сумесна і Роберт, і мы, супраць агульнага ворага — фашызму...

І вось зноў ліст з англійскага горада Ньюкасту. Р. і М. Чэлдры не затрымаліся з ім да нас. Потым яшчэ і яшчэ добрыя сяброўскія словы прывітання, і, здаецца, часна кажучы, што мы даўно ўжо з імі сябруем, хоць сустрэчы нашай няма яшчэ нават і года.

У апошнім лісце стары салдат і яго жонка апавядаюць, у прыватнасці, пра сваіх дзяцей — сына Томаса і дачку Катрын-Мэры. Той «стажыруецца ў юрыдычных адносінах, яму гэта работа падабаецца, жыве ў горадзе Чэстэр, што ў 30 мілях ад нас». А Катрын і яе муж Ахан, — пішуць Чэлдры далей, — «чакаюць у ліпені сваіх першых дзяўчынку ці хлопчыка, і мы, старыя, бацька і маці, увесь час молімся, каб усё было добра...»

Прыемна, зразумела, чытаць і такія радкі: жыццё ёсць жыццё. «А як у вас, што новага, харошага? — цікавіцца англійскі ветэран з жонкай. — Пішыце. Чакаем».

І мы пішам. Падтрымліваем перапіску. А чаму б і не пісаць людзям, па ўсяму відаць, добрым, якія ўважліва, з цікавасцю ставяцца да нас і нашай Радзімы?!

**Рыгор ТАРАСЕВІЧ,**
**ветэран вайны.**

**Іван САВЕРЧАНКА**

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



— 49 —

Такі быў стратэгічны разлік Льва Сапегі і яго аднадумцаў у пытаннях царкоўна-рэлігійнага ўладкавання Вялікага Княства. Стварэнне адметнага, нацыянальнага касцёла беларусаў стала для канцлера галоўнай мэтай усяе яго чыннасці да канца жыцця.

XIX

Што ж канкрэтна зрабіў Леў Сапега дзеля правядзення ў жыццё сваёй мэты?

Да цяперашняга часу захавалася палемічнае выступленне канцлера (дарэчы, ад 10 верасня 1595 года) супроць князя Канстанціна Астрожскага, які ў сваім «Акружным Пасланні» заклікаў праваслаўны люд Княства распачаць вайну з каталікамі ды «мясцовымі здраднікамі», што рыхтуюцца да вуніі з імі. Прызыў К. Астрожскага — яднацца ў барацьбе з іншаверцамі — на справе азначаў пачатак грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе.

Леў Сапега, як прыхільнік талеранцыі і праціўнік вырашэння ўнутрыгаспадарчых праблемаў з дапамогаю зброі, не пакінуў незаўважаным «Акружное Пасланне», роўнае па сваёй антыпапскай скіраванасці і з'едлівасці можа толькі пратэстанцкім трактатам. Здзівілі канцлера і выпады аўтара «Акружнога Паслання» ў адрас Жыгімонта III, якому К. Астрожскі пагражаў вайною, калі ён не адмовіцца ад падтрымкі вуніі.

Імкнучыся спыніць новы канфлікт між канфесіямі, Леў Сапега накіраваў К. Астрожскаму пісьмовы «Адказ» на яго «Акружное Пасланне», папярэджваючы праваслаўнага князя аб небяспецы, якая чакае яго асабіста і ўсё Княства ў выпадку, калі зброя зробіцца

— 50 —

апошнім аргументам у рэлігійнай палеміцы.

У сваім лісце канцлер нагадваў К. Астрожскаму аб талеранцыі, што спрадвеку існавала ў Княстве і ахоўвалася дзяржаваю, ды патрабаваў ад яго павагі да законна абранага ўсім рыцарствам караля і вялікага князя. «Адносіны да царкоўнага паяднання, — пісаў Сапега Астрожскаму, — гэта твая ўласная справа. Але як можна лаіць папу, называць яго антыхрыстам і непрыяцелем Сына Божага, абражаць усіх католікаў і святую саборную веру, пагражаць каралю замахам на яго жыццё і стратаю каралеўства, прыраўноўваць яго да ерэтыкоў і ачарніцеляў маестату Боскага (пратэстантаў. — **Аўт.**) ды падбухторваць іх супроць каталікаў! А паколькі кароль — католік, то палохаеш і яго, пагражаеш выставіць супроць яго 20 тысяч жаўнераў... Усяго гэтага, мой міласцівы пане, не трэба было чыніць. А я сам, хаця і з'яўляюся зычлівым слугою і крэўным вашае княскае міласці, але таго ўхваліць не магу і сардэчна перажываю, што гэта ад вас зыходзіць».

Леў Сапега прасіў Астрожскага перастаць незаконна распаўсюджваць сярод насельнікаў Вялікага Княства розныя граматы, тэкст якіх не ўзгадняўся з Жыгімонтам III і не замацоўваўся яго канцлерскай пячаткаю, ды пакінуць, нарэшце, у спакоі аднаго з прыхільнікаў вуніі — уладзімірскага і луцкага епіскапа Іпація Пацея і не пагражаць яму фізічнай расправай. «Дзеля Бога, прашу, раю і папярэджваю, — падкрэсліваў канцлер, — каб вашая міласць пакінуў яго (Іпація Пацея.—**Аўт.**) у спакоі. Бо кароль — вярхоўны пан і абаронца ўсіх духоўных асоб як рымскае, так і грэчас-

— 51 —

кае рэлігіі — не дапусціць, каб хто-ковек камунебудзь чыніў зло. За гэта кожны злачынца атрымае па заслугах. Ягамасць кароль хоча і будзе ўсіх, усялякімі сродкамі ад любога гвалту, крыўд і ўціскаў бараніць».

Спасылаючыся на свой горкі вопыт узаемаадносінаў з Жыгімонтам III, канцлер раіў Астрожскаму не канфліктаваць з манархам. «Хоць мяне і самога нярэдка заносіць, — пісаў ён яму па-сяброўску, — але зараз не той час».

Леў Сапега меў рацыю: у любую хвіліну непарадкі ды рэлігійныя спрэчкі ў Вялікім Княстве маглі перарасці ў поўную анархію і хаос. Мусіць, парады канцлера, яго рашучыя крокі ды тэрміновыя перамовы з беларускімі і ўкраінскімі дваранамі спынілі Астрожскага ад крайніх учынкаў, выратавалі на той момант Беларусь ад амаль што немінучай братазабойчай вайны не рэлігійнай глебе.

XX

Як і разлічваў Леў Сапега, прыхільнікі вуніі, на якую ўрэшце пасля доўгіх пярэчанняў і ваганняў згадзіўся і мітрапаліт Міхаіл Рагоза, дамагліся ад папы рымскага ды караля захавання за новаўтвораным касцёлам права на адметнае (усходняе) набажэнства і цырымоніі, збераження ўсіх іх ранейшых земельных уладанняў, манастыроў і цэркваў, карыстання ў рэлігійнай практыцы старым юліянскім календаром, ліквідацыі юрыдычнай моцы патрыяршых рашэнняў, незалежных выбараў сваіх мітрапалітаў, роўнасці правоў з каталіцкімі біскупамі, нарэшце, удзелу ў палітычным кіраванні Рэччу Паспалітай.

— 52 —

На гэтакіх умовах на Берасцейскім царкоўным саборы, што праходзіў шостага-восьмага кастрычніка 1596 года, была падпісана Грамата аб прызнанні першынства рымскага папы і фактычным утварэнні на тэрыторыі Вялікага Княства новага — вуніяцкага касцёла, бо значная частка праваслаўных, што сабраліся тут жа ў Бярэсці на свой сабор, які праходзіў пад кіраўніцтвам патрыяршага экзарха Нікіфара, адвергла вунію і адмежавалася ад новай царкоўнарэлігійнай плыні.

Леў Сапега асабіста прысутнічаў на Берасцейскім саборы ў якасці каралеўскага камісара і, як сведчаць сучаснікі, выступіў з палымянай прамовай у абарону вуніі. Нездарма ж папа рымскі Клімент VIII пазней даслаў канцлеру падзяку за ягоныя шчыраванні на карысць вуніі.

XXI

Прадухіліць барацьбу канфесіяў пасля 1596 года нават Сапегу з яго талентам дыпламата і палітыка было няпроста. Сярод праваслаўных, што не прынялі вуніі, апынуліся таленавітыя беларуская пісьменнікі — Стафан і Лаўрэнці Зізаніі, Іосіф Бабрыковіч, Лявон Карповіч, Мялеці Сматрыцкі,* Сільвестр Косаў ды іншыя, якія распачалі вострую літаратурна-багаслоўскую палеміку са сваімі ідэйнымі праціўнікамі. Амаль ніводзін з беларускіх Соймаў пасля падпісання Берасцейскай вуніі і недзе аж да 30-х гадоў XVII стагоддзя не праходзіў без спрэчак паміж праваслаўнымі ды вуніятамі.

* Мялеці Сматрыцкі пазней памяняў свае погляды і прыняў вуніяцтва.

— 53 —

Між імі бесперапынна цягнуліся судовыя працэсы. Падчас усіх гэтых канфліктаў Леў Сапега заўжды стаяў на баку вуніятаў.

Абаронцамі праваслаўя абвясцілі сябе і запарожскія казакі, якія цяпер апраўдвалі свае крывавыя пагромы і ўсе нябачаныя злачынствы змаганнем за «веру бацькоў».

Не зважаючы на складаныя палітычныя варункі, нястрыманы ціск з боку праваслаўных колаў, канцлер працягваў барацьбу за ўмацаванне новастворанага касцёла, на які ён пасля нечаканага новага царкоўнага размежавання складаў яшчэ большыя надзеі ў захаванні самастойнай беларускай дзяржавы ды адметнай беларускай культуры і рэлігіі.

На варшаўскім Генеральным Вальным Сойме 1597 года (праходзіў з 10 лютага па 25 сакавіка) Леў Сапега па патрабаванні многіх дэпутатаў, што жадалі ведаць «праўду» аб Берасцейскім саборы, выступіў са своеасаблівай справаздачай, у якой падкрэсліў поўную незалежнасць духоўных асобаў падчас прыняцця імі свайго рашэння. Па словах канцлера, прадстаўнікі ўлады (акрым яго на Берасцейскім саборы прысутнічалі велікакняжацкі падскарбій Дзмітрый Халецкі ды троцкі ваявода Радзівіл Сіротка) толькі забяспечвалі парадак у час сабору і нікому анікага прымусу не чынілі, аб чым няспынна распаўсюджвалі чуткі праціўнікі вуніі.

Аднак Леў Сапега, на жаль, не пазбегнуў выкарыстання жорсткіх сродкаў. Скарыстоўваючы ўсю моц дзяржаўнай улады, канцлер, пачынаючы з 1597 года, змагаецца з берасцейскім і віленскім праваслаўнымі брацтвамі ды манахамі кіева-пячэрскага манастыра, што не

— 54 —

прынялі вуніі. Вельмі пацярпелі ад яго віленскія праваслаўныя мяшчане — Рыгор Ждановіч, Карл Лазаровіч ды Іван Парошка, западозраныя ў патаемных зносінах з маскоўскай праваслаўнай царквою.

За дапамогай да Льва Сапегі шматкроць звяртаўся І. Пацей (пасля смерці ў 1599 годзе М. Рагозы ён стаў мітрапалітам) і кожны раз атрымліваў яе. Так, напрыклад, здарылася пры разглядзе шырокавядомай справы дзяка віленскай брацкай царквы — Антонія Грэковіча, абвінавачанага ў злачынным сувязі з манашкай Кацярынай Лычанкай. Трыбунал Вялікага Княства вынес рашэнне: пакараць падсуднага смерцю, з чым абсалютна не пагадзіўся І. Пацей, лічачы, што вінавацаць духоўнае асобы можа вызначаць толькі ягоны мітрапалічны суд. Леў Сапега падтрымаў І. Пацея і 12 жніўня 1605 года па настаянні канцлера каралеўскі задворны суд адмяніў рашэнне трыбунала. І. Пацей сваім судом апраўдаў Грэковіча, а свяшчэннікаў віленскага брацтва Іосіфа Яцковіча ды Івана Семяновіча пакараў «за паклёп».

13 снежня 1605 года новы папа рымскі Павел V даслаў канцлеру ліст з падзякай за тое, што ён дапамагае І. Пацею ўмацоўваць вуніяцкую царкву.

XXII

У 20-я гады XVII стагоддзя, пасля ўзнаўлення праваслаўнай мітраполіі Вялікага Княства, Льву Сапегу давялося змяніць тактыку сваіх дзеянняў у адносінах да рэлігійных праблемаў, што выявілася ўжо падчас канфлікту Іасафата Кунцэвіча з праваслаўнымі жыхарамі Магілёва, Полацка ды Віцебска.

— 55 —

Змаганне полацкага і магілёўскага архіепіскапа Іасафта Кунцэвіча* з мяшчанамі Магілёва пачалося з 19 кастрычніка 1618 года, калі яны не ўпусцілі ўладыку ў горад. За непакорнасць архіепіскапу рашэннем рэляцыйнага суда, якое падпісаў Леў Сапега 22 сакавіка 1619 года, на Магілёў ускладаўся велізарны грашовы штраф. Усе цэрквы разам з маёмасцю па загаду канцлера перадаваліся пад уладу І. Кунцэвіча. У выпадку невыканання яго распараджэння Леў Сапега пагразіў магіляўчанам новым штрафам памерам у 20 тысяч злотых.

Але праваслаўныя насельнікі Магілёва не збіраліся выконваць аніякія загады. Яны разлічвалі ўзяць рэванш, ускладаючы надзеі на ўзноўленую праваслаўную мітраполію ды новага мітрапаліта Іова Барэцкага, хіратанізаванага 19 кастрычніка 1620 года. І сапраўды, Іоў Барэцкі, каб пазбавіць праваслаўны люд Магілёва ад дамаганняў І. Кунцэвіча, неадкладна прызначыў на полацкую, віцебскую і магілёўскую кафедру Мялеція Сматрыцкага.

Аднак І. Кунцэвіч, карыстаючыся падтрымкай Льва Сапегі і ўсяго базыліянскага ордэна, утвораная на Беларусі ў 1617 годзе, зусім не думаў саступаць і праз нейкі час гвалтам пазачыняў праваслаўныя цэрквы на тэрыторыі ўсяе велізарнае епархіі. А першага лютага 1621 года ўжо Жыгімонт III, напэўна, пад уплывам Льва Сапегі, накіраваў грамату полацкаму магістрату, патрабуючы, каб праваслаўныя падпарадкоўваліся архіепіскапу І. Кунцэвічу і выконвалі толькі яго распараджэнні.

* На пасаду архіепіскапа І. Кунцэвіч быў прызначаны 31 сакавіка 1618 года.

— 56 —

Праваслаўныя адказалі непакорнасцю і паклікалі на дапамогу запарожскіх казакаў. Зноўку ўзнікла небяспека рэлігійнае вайны, чаго канцлер не мог аніяк дапусціць. Таму дзевятага лютага 1621 года Леў Сапега ў пасланні да І. Руцкага заклікаў усіх прыхільнікаў вуніі змяніць тактыку барацьбы і ажыццяўляць надалей свае планы больш асцярожна. У лісце да І. Кунцэвіча канцлер патрабаваў ад яго як мага хутчэй вярнуць праваслаўным Магілёва адабраныя ў іх цэрквы, каб неяк прытушыць канфлікт. Аднак настырны І. Кунцэвіч працягваў дзейнічаць у ранейшай манеры, не зважаючы на пагрозы магіляўчан запрасіць на дапамогу яшчэ і рускага цара.

Уяўляючы, якой бядой для Княства можа скончыцца супрацьстаянне Кунцэвіча з магіляўчанамі, Леў Сапега 12 сакавіка 1622 года звярнуўся да архіепіскапа з вострым пасланнем, напісаным у палемічнай манеры, загадваючы яму неадкладна спыніць небяспечныя для гаспадарства ганенні на праваслаўных. «Вы,— пісаў раззлаваны канцлер,— кіруючыся не столькі міласцю да бліжніх, колькі славалюбствам ды прыватнай нянавісцю, насуперак святой волі і закону Рэчы Паспалітай, распалілі тыя небяспечныя іскры, якія ўсім нам пагражаюць усёзнішчальным пажарам». На ранейшую прапанову Кунцэвіча ўчыніць фізічную расправу над праваслаўнымі ды выгнаць з Княства ўсіх, хто перашкаджае справе вуніі, канцлер аднаначна адказаў: «Божа, барані нашую Айчыну ад такога жахлівага беззаконня!».

**Працяг. Пачатак у №№ 7—12.**

